**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Са святам вясны і прыгажосці!

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

9 (569) 3 сакавіка 2011 года

Кошт свабодны.

**Браслаўскі раён**

# Ліпавыя тушы

■ Станіслаў Раманчук

**Перыядычна ў сферы айчыннага гандлю і спажывецкай кааперацыі ўзнікаюць гучныя справы, калі нехта з упраўленцаў незаконным шляхам папраўляе свой дабрабыт.**

Вялікую брудную пляму на рэпутацыі Браслаўскага райспажыўсаюза паставілі самі ж ягоныя работнікі. Дэтальная праверка фінансавай міліцыяй выявіла дзіўныя рэчы, да якіх там дадумаліся. Як выявілі супрацоўнікі міжраённага Дэпартамента фінансавых расследаванняў абласнога Дзяржкантролю, па падробленых дакументах у азёрным краі закупілі быццам у насельніцтва ... сала болей чым на паўмільярда рублёў. Гэта схема дазволіла камусьці пазбавіцца выплат падаходнага падатку ў суме 70 млн. рублёў. Калі афіцэры-апаратыўнікі сталі дэталёва правяраць дакументы, то высветлілі, што адна з вясковых жанчын па прыёмных квітанцыях за пару гадоў 9 разоў здала нарыхтоўшчыкам сала амаль тры тоны. Гэта ж трэба было мець невялічкую свінаферму, каб вырасціць столькі мяса. На самай справе гэта жанчына адзінае што рабіла для райпо– здавала сюды ягады. Пры праверцы высветлілася яшчэ шэраг такіх дзіўных фактаў, фіктыўных давядак на пабочных людзей. Следства па гэтай справе працягваецца і, напэўна, знойдуцца яшчэ нямала "мёртвых туш", а таксама на свет божы выйдуць і дзялкі, якія прыдумалі такія схемы аперацый дзеля нажывы.

**Віцебская вобласць**

# Паездзілі і хопіць

■ Чэслаў Якубовіч

**Напярэдадні прайшоўшых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі быццам бы падтрымалі ідэю вяртання школьнікам і студэнтам адабраных ільгот на праезд у грамадскім транспарце.**

Віцебская вобласць у гэтай справе пайшла далей за ўсіх у краіне і амаль два месяцы моладзь ездзіла бясплатна на вучобу і назад дамоў. Аднак гэта ідэя аказалася дрэнна пралічанай эканамічна, транспартныя арганізацыі вобласці ў снежні-студзені панеслі дадатковыя страты, а рэнтабельнаць пасажырскіх перавозак знізілася яшчэ болей. У выніку з 10 лютага па вобласці аблвыканкам вымушаны быў адмяніць ільготы на праезд у гарадскім і прыгарадным траспарце для навучэнцаў ПТВ, тэхнікумаў і ВНУ. Далей болей, па рашэнні ўрада з 23 лютага ўжо і навучэнцам 583 школ і гімназій Віцебшчыны ў выхадныя дні бясплатна праехаць па горадзе па даведцы са школы не атрымаецца. Ды і правам бясплатнага праезду школьнікі могуць скарыстацца толькі ў межах свайго населенага пункта па дарозе ад дома да месца навучання ў перыяд з 1 верасня да 30 чэрвеня. Нядзеля ўвогуле стала "чорным днём", бо ніякіх заняткаў і пазакласных мерапрыемстваў у гэты дзень не праводзіцца. Сам гэты дакумент сведчыць, што краіна наша бедная настолькі, што пайшла на ліквідацыю раней існаваўшых 50-працэнтных зніжак ад кошту праезду, што было дапамогай сямейным бюджэтам небагатых беларускіх сем'яў.

**Пастаўскі раён**

# Дакарагодзіўся да – кратаў

■ Кастусь Александровіч

**Да чаго толькі могуць у жыцці давесці неабдуманыя дзеянні, калі людзі перастаюць кантраляваць свае паводзіны.**

Вось і ў Паставах нядаўна адбылася гісторыя, якую хіба што можа прыдумаць сцэнарыст для здымак кіно. А ў рэальным жыцці ў мясцовым кафэ "Камелія" 33-гадовы кавалер спачатку нават узрадаваўся, калі пазнаёміўся за танцам з такой жа маладой жанчынай. Мужчына перад гэтым толькі нядаўна выйшаў на волю і, вядома, хацеў паслабіцца, паспытаць усю асалоду жаночых ласкаў. Дзеля гэтага ён стаў шчодра частаваць сваю даму і ў наступным дыска-бары "Калясо" і ў кафэ "Брыз". Ужо ў гасцінічным нумары парачка распіла бутэльку шампанскага. Калі знаёмства быццам наблізілася да прыгод у ложку, нечакана сяброўцы стала вельмі дрэнна і яна адмовілася ад ночы бурнага кахання. Пакрыўджаны кавалер вырашыў кампенсаваць патрачаныя грошы і забраў з яе кашалька 270 тысяч. Праўда, лавелас адвёз небараку дамоў, а далей з размахам прадоўжыў гулянку ў забаўляльных установах райцэнтра і патраціў усю ўкрадзеную суму. Гэтыя грошы ён вярнуў пацярпелай пасля яе звароту ў міліцыю, аднак за такі крадзеж быў пакараны арыштам на 3 месяцы.



# Лічба нумара

**9** *млрд. USD* – дзяржаўны крэдыт на такую суму, як стала вядома, пагадзілася Расія прадаставіць Беларусі на будаўніцтва атамнай станцыі ў Астраўцы і яе інфаструктуры. Рэальна за такія грошы ўзвесці не толькі саму АЭС, але і горад атамшчыкаў на 30-35 тысяч жыхароў. Адпаведнае пагадненне, як чакаецца, будзе падпісана 15 сакавіка на чарговым пасяджэнні Саюзнага саўміна, адначасова з дакументамі аб стварэнні беларуска-расійскага СП на парытэтных асновах 50/50 па збыце выробленай электраэнергіі.

Раней беларускі бок супрацўляўся такой перспектыве дзяліць усе дывідэнды папалам. Адзінае, чаго беларусы дабіліся – выкарыстання перадаючых сетак ЛЭП "Белэнерга" для паставак электраэнергіі, напрыклад, у Польшчу на платнай аснове. Але калі расіяне укладуць грошы ў стварэнне і мадэрнізацыю такіх сетак, то гэтаму СП лініі прадаставяць бясплатна. Для нашай краіны ў прынцыпе выгадны такі крэдыт, паколькі ён доўгатэрміновы, на 25 гадоў, з адтэрміноўкай першага плацяжу да моманту пачатку работы новай АЭС.

Як вядома, калі ўсё будзе з будаўніцтвам станцыі нармальна, то першы яе блок завершацць у 2016 годзе ці крыху пазней, бо будоўля гэта высокатэхналагічная, а аб'ект дзяржаўнай важнасці. Таксама адначасова Беларусь падала заяўку ў Антыкрызісны фонд ЕўрАзЭС аб выдзяленні нам крэдыту яшчэ на 2 млрд. долараў зноў жа на працяглы тэрмін. Дагэтуль сюды беларусы не звярталіся за падтрымкай, хоць маюць квоту ў гэтым фондзе, створаным шасцю краінамі СНД, у памеры 1,7 млрд. USD.

Іншая справа, што апошнім часам Беларусь пачала жыць у доўг і набрала розных крэдытаў на дадзены момант у суме каля 22 мільярдаў долараў, альбо па 2200 у. а. на кожнага жыхара краіны. У бліжэйшыя гады нам прыйдзецца пачаць іх аддаваць, сёлета трэба вярнуць каля 900 млн. долараў ранейшых пазык. У наступныя гады гэта сума ўзрасце і будзе ўжо штогод перавышаць 2 і дасягне амаль 3 млрд. долараў, якія трэба аддаць крэдыторам.

Між іншым, яшчэ ў 2009 годзе расійскі міністр фінансаў А. Кудрын пачаў сумнявацца ў неабходнасці далейшага фінансавання ўзрослых апетытаў беларусаў і фактычна заблакіраваў выдзяленне нашай краіне апошняга транша крэдыту ў памеры 500 млн. USD. У складаны крызісны перыяд прыйшлося нам карыстацца падтрымкай МВФ і пачаць размяшчэнне еўрабондаў на не вельмі выгадных умовах. Характэрна, што пры гэтым сёлета Расія пачала год з невыканання сваіх абавязацельстваў па пастаўках нафты ў РБ.

У студзені нам паставілі толькі 617 тыс. тон "чорнага золата" замест абяцаных 1,5 млн. тон. Адначасова савет дырэктараў буйной расійскай нафтагазавай кампаніі "Славнефть" (7-е месца ў РФ па аб'ёмах здабычы нафты) вырашыў закрыць сваё прадстаўніцтва ў Мінску. Гэта кампанія лічыць, што ёй няпроста развіваць свой бізнес у Беларусі, сетку ўласных АЗС, купляючы вымушана нафтапрадукты ў свайго канкурэнта –"Беларуснафты"–і не мець магчымасці ўплываць на дзейнасць Мазырскага НПЗ, валодаючы буйным пакетам яго акцый.

Дарэчы, на гэты год аб'ёмы новых знешніх запазычанасцяў Беларусі павінны быць даволі сціплымі, бо перад Беларуссю стаіць праблема вялікага адмоўнага знешнегандлёвага балансу пры наяўнасці многіх энергаёмкіх прадпрыемстваў. На нулявое сальда знешняга гандлю ставіцца задача выйсці ўжо ў 2014 годзе, але яе выкананне будзе проста немагчыма без паскоранага інавацыйнага развіцця. У гэтай сферы менавіта самы маштабны праект па будаўніцтву першай у РБ АЭС.

Пакуль жа старт гэтай сур'ёзнай будоўлі зацягнуўся амаль на год. Магчыма, цяпер і не трэба дабівацца пуску першага энергаблока атамнай станцыі ў 2016 годзе. Адначасова ў планах беларускага ўрада і развіццё малой энергетыкі, а гэта даволі істотна – усяго 161 аб'ект розных міні-ТЭЦ і гідраэлектрастанцый. Відавочна, што кошт энерганосьбітаў будзе расці ў свеце і ў далейшым. Вырашаючы новыя задачы, і беларусам ужо не абысціся без правядзення даўно наспеўшых рэформ у сферы кіравання і пераходу на рынкавыя метады гаспадарання, меўшы сяброўскія адносіны як на Усходзе, так і на Захадзе.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 03.03.11 | | | | пятн. 04.03.11 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | -6 | -7 | -4 | -3 | -7 | -5 | -2 | -4 |
| Ціск, мм | 763 | 761 | 759 | 757 | 756 | 755 | 754 | 751 |
| Вільготнасць, % | 93 | 94 | 93 | 95 | 88 | 90 | 91 | 93 |
| Вецер м/сек | З 2 | З 3 | З 5 | З 5 | З 4 | З 4 | З 5 | З 5 |
| | | 06:56 | 17:48 | | | 06:53 | 17:50 | |
| | | 06:02 | 16:38 | | | 06:16 | 17:49 | |

| | сб. 05.03.11 | | | | нядз. 06.03.11 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | -4 | -4 | 0 | -1 | -4 | -6 | -5 | -7 |
| Ціск, мм | 745 | 738 | 731 | 732 | 737 | 741 | 746 | 751 |
| Вільготнасць, % | 87 | 90 | 91 | 92 | 89 | 87 | 83 | 84 |
| Вецер м/сек | З 7 | З 8 | З 10 | С-З 11 | С-З 8 | С-З 7 | С 7 | С 6 |
| | | 06:51 | 17:52 | | | 06:48 | 17:54 | |
| | | 06:28 | 18:59 | | | 06:40 | 20:10 | |

| | пн.07.03. | | |
|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | |
| Ападкі | | | |
| Тэмпература, °C | -7 | -8 | -6 |
| Ціск, мм | 754 | 757 | 758 |
| Вільготнасць, % | 87 | 89 | 79 |
| Вецер м/сек | С 4 | С-З 3 | С-З 2 |
| | 06:46 | 17:56 | |
| | 06:53 | 21:21 | |

## Дзень за днём

**З улікам павышэння тарыфаў беларусы сталі аплочваць у сярэднім каля 40 % сабекошту паслуг ЖКГ, а за газ – ужо 89,7 % яго рэальнага кошту пры наяўнасці ў доме лічыльнікаў. Новае абвастрэнне адносін Беларусі з Захадам выклікалі першыя вынесеныя прыгаворы па справе аб масавых непарадках пасля выбараў. Быццам джын з бутэлькі, у краіне папаўзлі ўверх цэны, асабліва на харчаванне. Ужо студзеньская інфляцыя значна апярэдзіла сярэднямесячны прагноз 2011 года, у лютым такса ма прадоўжыўся рост цэн на капусту, моркву, бульбу, крупы, малочныя прадукты.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Глава Сусветнага банка Роберт Зелік папярэдзіў, што свет стаіць напярэдадні глабальнага харчовага крызісу, летась сталі недаядаць яшчэ 44 млн. бедных людзей.

**Кітай.** Краіна хоць і выйшла на 2-е месца ў свеце па ўзроўні ВУП, але па дабрабыту на душу насельніцтва саступае Японіі ў 10 разоў, стаіць перад пагрозай росту цэн на ежу.

**Расія.** Прэзідэнт РФ праз пасольства ў Мінску атрымаў пісьмо ад родных арыштаваных па справе 19 снежня з просьбай паўплываць на ўлады РБ спыніць маxaвік рэпрэсій.

**Польшча.** Польскае МЗС заявіла аб намерах пераканаць Еўрасаюз больш рашуча дзейнічаць супраць аўтарытарнага рэжыму ў РБ, заклікала Мінск спыніць усе рэпрэсіі.

**Германія.** Нямецкі канцлер А. Меркель рашуча выступіла супраць прыёму бежанцаў з Туніса, іншых краін Афрыкі, а за эканамічную дапамогу ім, каб будавалі будучыню дома.

**Францыя.** Міжнародная місія АБСЕ заявіла, што парушэнні правоў беларускіх грамадзян у снежні і ў студзені на і пасля акцыі пратэсту ў Мінску набылі "масавы грубы характар".

**Аўстралія.** Праляцеўшыя над краінай цыклоны пагражаюць загубіць тут значную частку ўраджаю цукровага трыснікy, што можа выклікаць далейшы рост цэн на цукар у свеце.

**ЗША.** Амерыканцы прадставілі свой самы доўгі ў свеце самалёт "Боінг-747-8" даўжынёй 76 метраў з размяшчэннем 476 пасажыраў, але паліва ён спажывае менш, чым папярэднікі.

**Ірландыя.** Напярэдадні выбараў парламента ірландцы, настрашаныя ростам цэн і даўгамі краіны, масава забіралі свае грошы з банкаў, што яшчэ больш ўзмацніла ціск на курс еўра.

**Фінляндыя.** Сусветны лідар на рынку сотавай сувязі, кампанія Nokia (453 млн. апаратаў прададзена за год, альбо 32,6 %) аб'явіла новую стратэгію свайго далейшага развіцця.

**Японія.** Пасля 10 гадоў працы японскія вучоныя стварылі першы ў свеце ўнікальны робат-пратэз, які дапамагае стаць на ногі людзям, прыкаваным да інвалідных калясак.

**Бельгія.** Паліцыя Бруселя за ліхацтва болей за 30 км/гадзіну ў цэнтры горада адабрала вадзіцельскія правы ў малодшага сына караля Бельгіі, бо закон тут адзіны для ўсіх.

**Францыя.** Міжнароднае журы прысвоіла званне "самы прыгожы ў свеце аўтамабіль 2010 года" хэтчбэку французскай кампаніі Citroen DS4 і прыз за самы лепшы інтэр'ер.

**Расія.** У адной з клінік Масквы экстрана прааперыравалі 75-гадовую знакамітую актрысу Людмілу Гурчанка, каб яна змагла хадзіць пасля закрытага пералому правага бядра.

**Тайвань.** Новы сусветны рэкорд працягласці пацалунку ўстанавіла сямейная пара з курортнага горада Патайя, якая цалавалася без перапынку цэлых 46 гадзін і 24 хвіліны.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Новы віцэ-прэм'ер Сяргей Румас прызнаў, што стратныя дзяржпрадпрыемствы Беларусі больш не патрэбныя, яны павінны змяніць уласніка і пайсці на прыватызацыю.

**Раўбічы.** Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка заявіў тут, што не верыць ужо нікому, не баіцца ізаляцыі РБ і санкцый ЕС і ЗША і не зменіць свой курс пад чыім-небудзь ціскам.

**Пінск.** Пасля ўмяшання дзяржавы ў кіраванне холдынгам "Пінскдрэў" сітуацыя стала крытычнай, бо асноўны інвестар (уклаў у развіццё 4,5 млн. $) замарозіў інвестпраграму.

**Астравец.** Работы тут на нулявым цыкле будаўніцтва Беларускай АЭС, як заявіў першы намеснік прэм'ер-міністра РБ Уладзімір Сямашка, пачнуцца ў жніўні – верасні 2011 года.

**Мінск.** Замест Мінжылкамунгаса РБ урад створыць новую структуру – дэпартамент ЖКГ у складзе Мінбудархітэктуры, такая аптымізацыя чакае і Міністэрства гандлю Беларусі.

**Ліда.** Кіраўнікі чыгунак Беларусі і Літвы на сустрэчы ў літоўскай сталіцы дамовіліся запусціць дзве пары прыгарадных цягнікоў Ліда-Вільнюс.

**Мінск.** Генеральны пракурор РБ Р. Васілевіч прызнаў, што летась каля 3 млн. грамадзян прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці, гэта вельмі многа для 10-мільённай краіны.

**Слонім.** На кватэры сваёй знаёмай у райцэнтры міліцыя затрымала днём крымінальнага аўтарытэта Сяргея Быцко, які летам 2009 года збег з-пад варты і знаходзіўся ў вышуку.

**Пухавічы.** Настаўніца гісторыі Талькаўскай СШ Н. Ільініч звярнулася ў раённы суд аб аднаўленні на працы, паколькі дапушчана яе дыскрымінацыя па палітычных матывах.

**Мінск.** За актыўны ўдзел у падзеях на плошчы Незалежнасці прысудзілі 4 гады турмы члену выбарчай каманды У. Някляева 28-гадовму Васілю Парфянкову.

**Камянец.** У санаторыі для ветэранаў вайны і працы "Белая Вежа" адкрыўся новы спальны корпус яшчэ на 54 месцы, гэта здраўніца абслугоўвае і інвалідаў з абмежаваннем руху.

**Тураў.** У горадзе вырашана пабудаваць прычал для першай у Беларусі гасцініцы на 15 месц на вадзе, па Прыпяці і прытоках стане перамяшчаць яе спецыяльны рачны буксір.

**Мінск.** Экс-кандыдат у прэзідэнты Віктар Цярэшчанка пацвердзіў, што пасля 4-х допытаў у КДБ сапраўды разам з сям'ёй ледзь не папрасіў палітычнага прытулку на Захадзе.

**Гродна.** У рамках святкавання 120-годдзя класіка беларускай літаратуры М. Багдановіча ў абласным цэнтры паўстане помнік паэту, пройдзе шэраг выстаў, літаратурных вечароў.

**Мінск.** Кіраўнік дзяржансамбля "Песняры" Вячаслаў Шарапаў збраў з "Роспатента" заяву спыніць у Расіі канцэртную дзейнасць групы пад назвай "Белорусские Песняры».

# Наркаманаў у Полацку будуць легальна лячыць метадонам



■ Сафія Палата

**Першы ў вобласці кабінет замяшчальнай тэрапіі наркаманіі плануецца адкрыць на базе псіхіятрычнай лякарні ў Полацку.**

Мяркуецца, што першымі пацыентамі кабінета замяшчальнай тэрапіі стануць 50 нарказалежных. Іх будуць лячыць сіропам метадону, які не выклікае эйфарыі, але дазваляе зняць так званую "ломку" пацыентаў.

Праект адкрыцця кабінета замяшчальнай тэрапіі наркаманіі рэалізуецца ў Полацку ў рамках Праграмы развіцця ААН за кошт гранта Глабальнага фонду барацьбы са СНІДам, сухотамі і малярыяй.

Полацк і Наваполацк уваходзяць у лік чатырох гарадоў вобласці з найбольшай колькасцю наркаманаў. Пры гэтым асноўную масу спажыўцоў наркотыкаў у Віцебскай вобласці (81,3%) складае моладзь ва ўзросце да 35 гадоў.

Па дадзеных на пачатак 2011 года ў Віцебскай вобласці на ўліку ў нарколагаў стаіць больш за 1,2 тыс. чалавек, якія ўжываюць псіхаактыўныя рэчывы, з іх амаль 75% ужываюць наркотыкі, астатнія 25% спажываюць таксічныя рэчывы.

# Працоўны дзень пераносіцца з 7 сакавіка на 12 сакавіка

■ БелТА

У Беларусі працоўны дзень з панядзелка 7 сакавіка пераносіцца на суботу 12 сакавіка.

Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Савета Міністраў № 232 ад 24 лютага 2011 года.

Такім чынам будуць адно чатыры запар выхадныя: з 5 па 8 сакавіка (субота — аўторак).

Працоўны дзень таксама пераносіцца з панядзелка 2 мая на суботу 14 мая 2011 года. (3 мая — Радаўніца)

Арганізацыям даецца права з улікам спецыфікі вытворчасці (работы) ажыццяўляць перанос працоўнага дня ў іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Расійскія кампаніі "Раснафта" і "Лукойл" пацвердзілі зацікаўленасць у набыцці мясцовага НПЗ "Нафтан", але пры ўмове забеспячэння поўнага кантролю над ім.

**Віцебск.** Прадукты харчавання будуць надалей даражэць і ў Беларусі, пацвердзіў падчас "прамой лініі" міністр гандлю В. Чэканаў, гэта цяпер – агульнасусветная тэндэнцыя.

**Полацк.** Знос асноўнага абсталявання прадпрыемстваў горада дасягнуў 71 %, палова выпрабленай прадукцыі асела на складах, у вядучага з іх - "Шкловалакна"–вялізныя даўгі.

**Лёзна.** Глава вобласці даручыў да абласных "Дажынак" у верасні навесці парадак у райцэнтры на аўтавакзале, ва ўнівермагу і г.д., спачатку свята намячалася ў Браславе.

**Віцебск.** Абласны фонд "Віцебскаблмаёмасць" пацвердзіў, што летась са 100 праведзеных аўкцыёнаў толькі 36 былі выніковымі, удалося прадаць на іх 144 аб'екты нерухомасці.

**Талачын.** Пасля дзіўнага падзяжу 9 дзікіх кабаноў у зоне 10 км ад месца іх гібелі ва ўрочышчы "Цяцерынскае" ўвялі маніторынг і абследаванне тэрыторыі на вірусы, бактэрыі.

**Віцебск.** Горад мае вострую патрэбу яшчэ ў 2-х новых дзіцячых садах, накуль у вобласці 18 старых дзетсадоў патрабуюць капрамонту і не хапае 136 выхавальнікаў для працы там.

**Орша.** Паблізу вёскі Клін у нежылым доме міліцыя затрымала траіх злачынцаў, якія хацелі забіць таксіста і завалодаць яго машынай, але ён змог уцячы і паведаміць аб гэтым.

**Наваполацк.** Больш за 40 манастыроў і прыходаў з РБ, РФ, Украіны і Ізраіля ўдзельнічалі ў духоўна-асветнай выставе-ярмарцы "Беларусь праваслаўная" ў Лядовым палацы.

**Мёры.** У двух аварыях на слізкай дарозе Полацк-Браслаў на працягу сутак на тэрыторыі раёна загінулі днём 3 чалавекі, з іх і жанчына-веласіпедыст, трое былі цяжка паранены.

**Гарадок.** Да радасці інваліда-афганца Івана Барысенкі з вёскі Пальмінка віцебскі аўтасэрвіс за свой кошт ( 4 млн. рублёў) адрамантаваў яму старэнькі аўтамабіль "Ака".

**Паставы.** З пачатку стагоддзя колькасць дзяцей да 14 гадоў у раёне зменшылася ў 2 разы, удоў сярод жанчын стала 4670 чалавек (25,1 %), яшчэ 1427 дам жывуць разведзеныя.

**Браслаў.** Падчас выязнога прыёму старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта РБ А. Шпілеўскі паабяцаў дапамагчы спонсарам Ахрэмаўскай СШ набыць камп'ютарны клас.

**Талачын.** Жыхароў вёскі Рамашкава з насельніцтвам 140 чалавек моцна абурыла, што ў іх вырашылі закрыць аддзяленне сувязі, а да бліжэйшай пошты цэлых 10 км.

**Полацк.** Мясцовы музей-запаведнік пачаў адбор работ на III Міжнародную біеннале акварэлі "Вада+фарба", якая пройдзе ў старажытным горадзе з 3 чэрвеня да 7 ліпеня.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Мы наперадзе краіны ўсёй!

Колькасць вясковага насельніцтва, якое карыстаецца беларускай мовай




Колькасць гарадскога насельніцтва, якое карыстаецца беларускай мовай




**На сайце газеты «Наша Ніва» з'явілася цікавая, мабыць, сенсацыйная інфармацыя – мапы беларускасці краіны, якія базіруюцца на дадзеных апошняга перапісу насельніцтва. Улічваючы тое, што «Нашу Ніву» чытаюць не ўсе, мы змяшчаем тут передрук гэтай тэмы, якая, нам падаецца, будзе цікавай усім.**

«Паводле звестак, атрыманых падчас перапісу насельніцтва 2009 года, складзеныя своесаблівыя моўныя мапы краіны. На іх у працэнтных суадносінах паказаная колькасць насельніцтва, якая назвала сябе беларускамоўным.

Атрыманая статыстыка не дае бездакорна праўдзівых звестак, але дакладна вызначае настрой жыхароў таго ці іншага рэгіёну.

### Тры гарадскія аазісы

Спачатку пра беларускамоўных гараджан. Іх колькасць па краіне звышнізкая — усяго 11,3%. Але і сярод гэтай змрочнай карціны можна знайсці куткі беларушчыны.

Калі паглядзець на мапу, заўважаеш выразна выдзеленыя цёмна-сінія аазісы.

Тут размаўляюць па-беларуску найбольш. Першы — **глыбоцка-шаркоўскі**, вакол якога сабралася пяць раёнаў, дзе колькасць беларускамоўных гараджан большая за 50%, а часцяком і за 60%. Другі востраў — іўеўска-валожынскі — знаходзіцца на мяжы Мінскай і Гродзенскай вобласцяў. Радзіма Зянона Пазняка па-ранейшаму сведчыць пра сваю беларускасць! Трэці ж размясціўся на паўднёвым захадзе Міншчыны — вакол Нясвіжа і Клецка, захапіўшы з сабой і Ляхавіцкі раён.

### Паўднёвы правал

Цяпер што да кожнай вобласці.

Правальнай у плане беларускасці выглядае Гомельшчына.

Тут няма ніводнага раёна, дзе колькасць апытаных, якія назвалі сябе беларускамоўнымі, дасягнула хаця б 50%. Дарэчы, падчас перадвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі нацыянальна арыентаваныя

*Заканчэнне на стар.5*

■ Уладзімір Скрабатун

Неверагоднае Глыбокае

# Дом старосты глыбоцкага

У нашым распараджэнні ёсць добрая сотня здымкаў Глыбокага канца XIX-1930-ых гг., якія можна аднесці ў катэгорыю –“Неверагоднае Глыбокае”. Гэта тое Глыбокае, аб існаванні якога мы нават і не падазраём. Напрыклад, адзін са здымкаў канца XIX ст. з папулярнай сёння панарамай на касцёл і царкву, зроблены недзе з таго месца, дзе сёння мост цераз раку Беразвіцу па вуліцы Вольнай. Дык вось поле, якое ўвесну цяпер затапляецца паводкай – цалкам забудаванае вялікімі дамамі, хлявамі, пунямі…

Здымкі ж Беразвецкага манастыра 1916 года павяргаюць у шок! Няўжо такая прыгажосць тут была! Неверагодна!

Цяпер, калі шмат якія архівы свету павыходзілі ў інтэрнэт, можна “накапаць” чаго заўгодна. Косця Шыталь, наш даўні аўтар, знайшоў праект дома старосты глыбоцкага, кіраўніка Дзісенскага павета. Нагадаем, што сталіцай павета быў горад Глыбокае, а не Дзісна. Да Дзісенскага павета належалі не толькі Глыбокае і Дзісна, але і Лужкі, Германавічы, Шаркоўшчына, Докшыцы, Параф’янаў… Вялікі абшар!

Праект дома – тыпавы, па гэтым праекце, як сказана ў крыніцы, былі пабудаваныя аднолькавыя дамы ў Баранавічах, Драгічыне, Лідзе, Нясвіжы, Навагрудку, Слоніме, Стоўбцах, Валожыне.

Такі дом у Глыбокім быў пабудаваны! Так паведамляе крыніца. Але практыка паказвае, што кожны факт трэба спраўджваць. Мо мелі намер пабудаваць, але не паспелі … прыйшлі бальшавікі. Толькі вось сведкаў ці засталося? Альбо немцы, пакідаючы Глыбокае 3 ліпеня 1944 года, узарвалі?

Цікава, калі гэты праект быў рэалізаваны ў вышэйпералічаных гарадах Заходняй Беларусі, то можа дзесьці такія дамы захаваліся? Так! У Нясвіжы! У вельмі добрым стане! Праўдападобна і помнік архітэктуры!

На прыкладзе здымка (альбо малюнка) аднаго дома наўрад ці можна разважаць аб еўрапейскім выглядзе даваеннага Глыбокага. Аднак такіх здымкаў і розных аб'ектаў – шмат. Мы бачым імкненне тагачасных польскіх уладаў ператварыць Глыбокае ў горад еўрапейскага кшталту.



Праект дома старосты глыбоцкага.





Дом старосты нясвіжскага, які захаваўся. Аналагічны праект. Фота radzima.org

■ Кастусь Александровіч

# Дэбют на еўрапейскім узроўні




**Упершыню ў сваёй гісторыі выхаванцы футбольнага клуба “ПМЦ-Паставы” напрыканцы лютага выступілі на буйным міжнародным юнацкім футбольным турніры “Рыгас кап”.**

На гэтыя спаборніцтвы з удзелам 16 еўрапейскіх каманд беларускую спартыўную дэлегацыю ў складзе 26 чалавек у латвійскую сталіцу павёз асабіста дырэктар мэблевага цэнтра Анатоль Бабічаў. Юныя пастаўчане 16-гадовага ўзросту на мясцовым футбольным манежы пакінулі добрае ўражанне ў спецыялістаў пра сваю гульню і прымусілі лічыцца з сабой аднагодкаў з вядомых еўрапейскіх клубаў.

На стартавым этапе турніра каманда ПМЦ трапіла ў групу з адной з мясцовых рыжскіх каманд, якую ўдалося перамагчы ў першы дзень спаборніцтваў з лікам 3:1. У паядынку з аднагодкамі з каманды ФК “Шаўляй” (Літва) была зафіксавана нічыя з лікам 0:0.

Матчам нерэалізаваных магчымасцей стала наступная сустрэча з самым тытулаваным клубам, рэзервістамі чэмпіёна Расіі – масцітым “Зенітам” з Санкт-Пецярбурга. У гэтай сустрэчы беларускія футбалісты з Пастаў змаглі стварыць нават 6 яўных момантаў для ўзяцця варот саперніка, але ніводзін з іх не рэалізавалі. А вось маладыя расіяне свае шанцы не ўпусцілі і перамаглі каманду ПМЦ з лікам 2:0 за кошт большага вопыту ўдзелу ў турнірах такога ўзроўню. Гэта паражэнне ў пастаўчан стала адзіным з пяці праведзеных матчаў у Рызе. Аднак з-за горшай розніцы забітых і прапушчаных мячоў яны прапусцілі наперад у мацнейшую групу каманд расіян і літоўцаў, якія змагаліся за ўзнагароды.

Юныя пастаўчане як трэцяя каманда з падгрупы ў суцяшальным турніры за 9-12 месцы згулялі паспяхова. У першым паядынку на гэтай стадыі турніра каманда “ПМЦ-Паставы” з буйным лікам 3:0 перамагла сваіх аднагодкаў са Швецыі, рэзервістаў бронзавага прызёра, ФК “Улео”. У заключным матчы юныя беларусы былі мацнейшымі ў сустрэчы з рэзервістамі аднаго з лідараў латвійскага футбола, камандай “Сконта” (Рыга). Лік у гэтай сустрэчы быў 2:1 на карысць пастаўчан, якія ў выніку занялі ганаровае 9-е месца, што нядрэнны вынік для дэбютантаў. Такім чынам, на турніры “Рыгас кап” футбалісты каманды “ПМЦ-Паставы” правялі 5 сустрэч, з якіх тры выйгралі і адну згулялі ўнічыю.

Саступілі пастаўчане толькі будучаму фіналісту турніра піцерскаму “Зеніту”, які ў фінале прайграў у серыі пенальці юным футбалістам з каманды суперлігі “Джэнуа” (Генуя, Італія). Ужо праз некалькі тыдняў пастаўскіх футбалістаў чакае новае выпрабаванне на еўрапейскім узроўні. Каманда “ПМЦ-Паставы” выедзе на сонечны Апенінскі паўвостраў, дзе на італьянскіх зялёных футбольных палях будзе паўмесяца трэніравацца і гуляць на міжнародных спаборніцтвах, рыхтуючыся да свайго новага спартыўнага сезону.

У красавіку пастаўчане пад кіраўніцтвам запрошаных на працу з Віцебска вопытных трэнераў Сяргея Ясінскага і Яўгена Чарнухіна возьмуць старт у чэмпіянаце Беларусі па футболе у вышэйшай лізе сярод аднагодкаў 1995 года нараджэння. У статусе чэмпіёнаў Віцебскай вобласці яны таксама згуляюць у фінале Алімпійскіх дзён моладзі Беларусі, дзе замахваюцца на высокія ўзнагароды. Апошнім часам у Паставах вельмі сур’ёзна развіваюць гэту гульню мільёнаў, тут падрыхтавалі сваю моцную і перспектыўную каманду, якая ў бліжэйшы час будзе ў стане паспяхова гуляць на нацыянальным узроўні і сярод дарослых.

■ Уладзімір Скрабатун

# Глыбокаму зноў не пашанцавала?

«Трэба прытармазіць з будаўніцтвам гіганцкіх аб’ектаў. У бліжэйшы час гіганцкія збудаванні мы будаваць не будзем», — заявіў Аляксандр Лукашэнка журналістам у суботу ў Раўбічах пасля ўдзелу ў лыжнай эстафеце «Мінская лыжня».

Ён ускосна прызнаў, што Лядовых палацаў набудавалі з ліхвой. «Трэба запоўніць іх спецыялістамі». «Трэба, каб на гэтых аб’ектах сфарміраваліся добрыя каманды, якія будуць прыносіць Беларусі перамогу і славу», — сказаў ён і адзначыў магчымасць запрашэння замежных трэнераў.



«Мы будзем рабіць упор на падрыхтоўку спартсменаў і добрыя заробкі», — абяцаў Лукашэнка.

Ён завяраў, што ў Беларусі ёсць грошы, каб «расці спартсменам, плаціць трэнерам, і выдатныя аб’екты — паказвайце вынікі».

Ці можна з вышэсказаных словаў першай асобы краіны зрабіць адназначную выснову: Лядовы палац спорту ў Глыбокім будаваць не будуць? З вялікай доляй верагоднасці – так! Тут «і да бабкі не хадзі»! Усё і так зразумела! Няма грошай. Надыходзіць час вяртаць крэдыты, якая напазычала нашая краіна.

Хаця могуць, як кажуць, быць і варыянты...

Наўрад ці гораду ўдасца пампезна адзначыць у 2012 годзе і Дзень беларускага пісьменства. Зразумела, свята адбудзецца: прывязуць з Мінска рознакаляровыя шатры, размесцяць там кніжныя паліцы, у неба запусцяць надзьмуты дырыжабль... Як тое было ў Паставах! Прывязуць з нейкага калгаса мастацкую самадзейнасць. Вось вам і свята. Але ўсе чакаюць большага! Ці можа Глыбокае разлічваць на вялікія фінансавыя ўкладанні ў горад? Як тое было перманентна ў Паставах на працягу апошніх 10-15 гадоў? Ці мы ўжо не паспелі ўскочыць у адыходзячы цягнік? І нам не пашанцавала чарговы раз!

Можна доўга спрачацца: патрэбны гораду ці не Лядовы палац? У кожнага свая логіка! Адны кажуць, што лепей укласці грошы ў медыцыну ці ў эканоміку, а іншыя сцвярджаюць, што няма ў нашым горадзе нармальнай кінаканцэртнай залы, куды можна было б запрасіць папулярных артыстаў ці рок-гурт, а Лядовы палац можна якраз выкарыстоўваць і ў такіх мэтах.

Непазнавальна пераўтварыліся ў лепшы бок шматлікія беларускія гарады, і не толькі Паставы, але і Полацк, Навагрудак, Мір... Неяк крыўдна за Глыбокае. А мо слаба прасілі?

# Мы наперадзе краіны ўсёй!

**Заканчэнне.**
***Пачатак на стар.4***

кандыдаты заўважалі, то менавіта гэтая вобласць дае зусім маленькія лічбы сабраных подпісаў.

На Магілёўшчыне аазісамі беларушчыны з’яўляюцца раскіданыя па краях вобласці глухія, неўрбанізаваныя Краснаполле, Круглае і Глуск, дзе колькасць беларускамоўных дасягае 50–60%. А вось Віцебшчына, калі ехаць ад Смаленска ў бок Латвіі, становіцца ўсё больш беларускай — ад абласнога цэнтра, дзе беларускамоўных менш за 5%, да ўжо названай рэкорднай Шаркоўшчыны.

На Брэстчыне вельмі русіфікаваны абласны цэнтр -- у савецкі час буйная вайсковая база. Тут, у Брэсцкім і Камянецкім раёне, паказчык не дацягвае і да 5%. Сітуацыю ратуюць Ляхавіцкі і Ганцавіцкі раёны.

Мінск і Горадня паказалі ад 5 да 10% беларускамоўных, але ў параўнанні з іншым вялікімі гарадамі гэта выглядае годным паказчыкам, бо астатнія абласныя цэнтры і Бабруйск не набіраюць і 5%.

Менавіта гродзенска-мінскую мяжу можна лічыць цэнтрам гарадской беларускасці. Землі, на якіх утваралася Вялікае Княства Літоўскае, найбольш супраціўляюцца русіфікацыі.

### Прапарцыйная беларускасць

Агульная колькасць вясковага насельніцтва, якое назвала сябе беларускамоўным, складае 58,3%. Вось толькі вяскоўцаў засталося нашмат менш за гараджан.

Мапы выглядаюць падобнымі, бо ў іх захоўваюцца тэндэнцыі — вяскоўцы па ўсёй краіне больш беларусіфікаваныя за гараджанаў, але гэты рост прапарцыяльны. Напрыклад, дзе налічылі 20% гараджан, там становіцца 40–50% вясковага. Таму цалкам лагічна, што «рэкардсмены» такія самыя — **глыбоцкае Паазер’е**, правае Панямонне і гістарычныя Нясвіжчына і Случчына.

У некаторых раёнах там колькасць беларускамоўнага вясковага насельніцтва перавышае 90% – паказчык аднамоўнай аднанацыянальнай дзяржавы.

# У Віцебску прайшоў сярэднявечны рыцарскі турнір

**У Цэнтры народных рамёстваў і мастацтваў «Дзвіна» ў Віцебску 27 лютага прайшоў сярэднявечны рыцарскі турнір, у якім узялі ўдзел 12 прадстаўнікоў клубаў гістарычнай рэканструкцыі з Віцебска, Мінска і Магілёва.**

«Гэта першы зімовы рыцарскі турнір, які праводзіцца ў Віцебску. У Сярэднявечны такія баі праходзілі ў гонар пэўных памятных дат. А цяпер мы вырашылі адзначыць такім чынам дзень нараджэння віцебскага клуба гістарычнай рэканструкцыі «Нагльфар», ён адзначае 10-годдзе, паведамілі арганізатары турніру на яго адкрыцці.



Паводле правілаў, спаборніцтва праходзіла па прынцыпе выбывання: слабейшыя супернікі пакідалі рысталішча, а астатнія працягвалі змагацца, пакуль не вызначыўся наймацнейшы. Так, з 12 супернікаў у другі тур выйшлі восем, а ў трэці ўжо пяць. У трэцім раўндзе наймацнейшым прызнаваўся той, хто за 1,5 хвіліны змог нанесці свайму суперніку найбольшую колькасць пашкоджанняў. Бой за трэцяе месца ішоў, як растлумачыў вядучы, «да дакладнага, прыгожага пападання ў галаву».

У выніку першае месца заваяваў Яўген Ісаеў (рыцарскае імя Штазік) з мінскага клуба «Труварынг», які падчас турніру не пацярпеў ніводнага паражэння. Было прыкметна, што менавіта яму больш за іншых сімпатызуюць балельшчыцы. Ён атрымаў у падарунак узнагароды шчыт, 20-грамовы злітак серабра. А галоўнай узнагародай пераможцу, як і ў старыя часы, стаў пацалунак прыгожай дамы. Яе ролю выканала ўдзельніца клуба «Нагльфар» Вольга Бунто.

Другое і трэцяе месцы ў членаў клуба-імянінніка Дзмітрыя Чарняўскага (Энда) і Юрыя Баравога, які выступаў на рысталішчы пад імем Іржавы.

У перапынках паміж паядынкамі гледачоў забаўлялі дзяўчаты, удзельніцы клубаў рэканструкцыі. Яны выконвалі сярэднявечныя танцы, навучалі ім усіх жадаючых і частавалі гледачоў гарачай гарбатай.

*Таццяна Мацвеева, БелаПАН.*

# БАТЭ заваяваў Суперкубак Беларусі па футболе

**Футбалісты барысаўскага БАТЭ заваявалі Суперкубак Беларусі. 27 лютага ў мінскім футбольным манежы каманда Віктара Ганчарэнкі абыграла жодзінскае «Тарпеда» з лікам 3:0 (Бага, 30, Брэсан, 86, Няхайчык, 90+2).**

У мінулым сезоне БАТЭ стаў чэмпіёнам і заваяваў Кубак Беларусі, таму ў матчы за Суперкубак сустрэўся з фіналістам Кубка. У фінале Кубка Беларусі 23 мая 2010 года БАТЭ разграміў аўтазаводцаў 5:0.

Суперкубак разыгрываўся ў другі раз. 8 сакавіка мінулага года БАТЭ выйграў у наваполацкага «Нафтана» па пенальці 3:2 (асноўны час 0:0).

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

# Няшчасныя выпадкі пры эксплуатацыі цеплавых сетак

■ Рацьковіч А.Ю.,
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА*

Мы прызвычаіліся чуць пра тое, якую небяспеку ўтойвае ў сабе электраэнергія, і часта не звяртаем увагі і губляем асцярожнасць пры карыстанні цеплавой энергіяй. Пра тое, якую небяспеку ўяўляе цеплавая энергія для чалавека, можна бачыць на наступных прыкладах.

Улетку 2010 года паступіла паведамленне, што гарачай вадой залівае КНС-2 КПУП «Вадаканал» г. Гомеля і пацярпела жанчына. На дадзеным участку выконваліся работы па вынасе цеплатрасы з-пад плямы будаўніцтва дарогі. Зона вытворчасці работ на дадзеным участку агароджана пастаяннай агароджай, на момант прыбыцця персанала Гомельскіх цеплавых сетак выяўлена адсутнасць часткі агараджальных канструкцый. У цемры (начное асвятленне адключаецца ў перыяд з 24.00 да 6.00), праходзячы праз праём у агароджы, жанчына звалілася ў запоўненую гарачай вадой траншэю дэмантаванага ўчастку цеплассеткі (тэмпература цепланосьбіта ад цеплакрыніцы 65 градусаў). Стан пацярпелай цяжкі.

Прычынай няшчаснага выпадку з'ўлялася пранікненне пацярпелай за агароджу зоны вытворчасці работ.

Увесну 2010 года брыгада выконвала работы па ўстройству тынкавага ахоўнага пакрыцця цеплассеткі Гомельскай ЦЭЦ-2. Пасля абедзеннага перапынку ізаліроўшчык тэрмаізаляцы В. вырашыў скараціць адлегласць да месца правядзення работ. Падняўшыся па стацыянарнай металічнай лесвіцы, пералез на трубаправоды сецявой вады і пры перасоўванні па іх спатыкнуўся і зваліўся з вышыні 5 метраў. Адчуўшы боль у спіне, пацярпелы са свайго тэлефона выклікаў хуткую дапамогу. Наступствы няшчаснага выпадку – пералом 2-х паяснічных пазванкоў. Прычына няшчаснага выпадку – парушэнне пацярпелым патрабаванняў працоўнай і вытворчай дысцыпліны, маршруту перасоўвання да працоўнага месца, інструкцый па ахове працы.

Увосень 2010 г. адбыўся няшчасны выпадак на вытворчасці са слесарам А. Пры рэзанні ёмістасці дыяметрам 2,5 метры вышынёй 3 метры на металалом, размешчанай на адкрытай пляцоўцы, слесар прыбраў рукавы паста газавага рэзання і спрабаваў уручную адлучыць падрэзаную частку памерам 1,5 х 2,2 метра з таўшчынёй 6 мм, спатыкнуўся і быў траўміраваны падаючым лістом. Пацярпеламу была аказана даўрачэбная дапамога. Чалавек атрымаў закрыты пералом правага сцягна і галёнкі, стан ацэньваецца як цяжкі.

Прычынай няшчаснага выпадку з'явіліся: адсутнасць належнага кантролю з боку майстра за ходам вытворчасці работ; асабістая неасцярожнасць пацярпелага; парушэнне пацярпелым інструкцыі па ахове працы для газарэзчыка.

Гэта толькі тры няшчасныя выпадкі, аднак іх значна больш, і прычынай шматлікіх з'яўляецца няправільная арганізацыя эксплуатацыі, рамонту, выканання правіл тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі і рамонце абсталявання сістэмы цеплазабеспячэння. Персаналу, які абслугоўвае цеплаўстаноўкі, трэба памятаць, што ўсе віды работ па рамонце абсталявання сістэм цеплазабеспячэння праводзяцца толькі з дазволу майстра, з выкананнем арганізацыйных мерапрыемстваў па бяспецы работ.

МІЖРАЁННАЯ ІНСПЕКЦЫЯ ІНФАРМУЕ.

# З 1 сакавіка лавіць шчупака – забаронена!

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**У апошнія дні лютага ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету паступаюць званкі ад рыбаловаў-аматараў пра тое, ці падоўжаныя тэрміны лоўлі шчупака.**

Паводле пункта 135 Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у мэтах захавання рыбных рэсурсаў і стварэння спрыяльных умоў для ўзнаўлення рыбы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя можа ўсталёўваць абмежаванні і забароны на прамысловае і аматарскае рыбалоўства, лоўлю асобных відаў рыбы.

У выпадку змены пагодных умоў, якія ўплываюць на размнажэнне рыбы, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя можа прымаць рашэнне пра змену тэрмінаў забароны як на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, так і ў асобных абласцях, не памяншаючы пры гэтым агульную працягласць забароны. **Пункт 138 Правілаў прадугледжвае забарону на лоўлю шчупака звычайнага з 1 па 31 сакавіка, аднак якіх-небудзь падаўжэнняў тэрмінаў лоўлі шчупака сёлета не ўсталявана. У сакавіку месяцы настае апошняя стадыя актыўнага развіцця ікры і неабходна забяспечыць магчымасць для шчупака спакойна падрыхтавацца да нерасту, (лоўля шчупака забаронена).**



Таму ўсім рыбаловам неабходна ў выпадку здабычы шчупака – адпускаць злоўленую рыбу. За парушэнне Правілаў і ўсталяваных абмежаванняў на лоўлю шчупака з 1 па 31 сакавіка прадугледжана адміністрацыйная адказнасць па ч.1 арт. 15.35. Ко АП Рэспублікі Беларусь у выглядзе штрафу ў памеры ад 10 да 50 базавых велічынь з пакрыццём 3-х кратнага кошту прычыненай шкоды. (За кожную адзінку незаконна вылаўленага шчупака ўрон складае 105 тысяч рублёў плюс вага рыбы)

На асобных вадаёмах раёна (возера Царкавішча) назіраюцца заморные з'явы. Нягледзячы на меры арандатараў дадзенага вадаёма, нязначная частка рыбы, асабліва дробнай, можа загінуць. Глыбоцкая міжрайінспекцыя просіць рыбаловаў-аматараў прыняць актыўны ўдзел у мерапрыемствах па мінімізацыі замору, а гэта высечка і выразка лунак, майн, усталёўка трысняговых снапоў. Аднак, асобныя грамадзяне, карыстаючыся бездапаможнасцю рыбы, замест аказання ёй пасільнай дапамогі, высечкі лунак, палонак, імкнуцца налавіць сабе рыбы рознымі спосабамі, у тым ліку і забароненымі прыладамі рыбалоўства. Няўжо мы настолькі галодныя, што гатовыя стаяць з сачкамі каля адной адзінай палонкі па 5 і больш чалавек дзеля аднаго ці двух шчупакоў ці ліноў. Людзі, на Вас шкада глядзець, лепш высечыце 20-30 лунак і дапамажыце рыбе кіслародам, каб ўлетку атрымаць задавальненне.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі папярэджваюць прагных грамадзян, што ў выпадку выяўлення фактаў здабычы рыбы забароненымі спосабамі, прыладамі ці рыбы, якая не дасягнула прамысловай меры, парушальнікі будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай, а магчыма і крымінальнай адказнасці.

**Увага: У сакавіку 2011 года адбудзецца сустрэча супрацоўнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, прадстаўнікоў іншых прыродаахоўных і праваахоўных органаў раёна, арандатараў вадаёмаў з рыбаловамі-аматарамі па тлумачэнні дзейснага прыродаахоўнага заканадаўства. Просьба да ўсіх ахвотных прыняць актыўны ўдзел у сустрэчы. Супрацоўнікамі міжрайінспекцыі будуць дадзены адказы на пытанні грамадзян. Месца і час сустрэчы будзе паведамлены дадаткова.**

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае велізарную падзяку грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў навядзенні парадку на вадаёмах і ў лясах нашага раёна.

Праўсе вядомыя іздзейсненыя факты парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: 8-02156 - 2-86-70 - кругласутачна. Начальнік інспекцыі, маб. 897-23-02, інспектары: 890-55-28, 249-45-49.

# Дровы могуць стаць «залатымі»!

■ А.Г.Абрамчык,
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Лес – наша багацце, і наколькі мы зможам яго захаваць, залежыць наша будучыня і будучыня нашых дзяцей. Аднак пры правядзенні прыродаахоўных мерапрыемстваў супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі штотыдзень выяўляюцца факты незаконных парубак, драпежніцкага стаўлення да лясных рэсурсаў.**

Пры праверцы месцаў рубак грамадзянамі для нарыхтоўкі дроў вельмі часта назіраеш карціну: сукі раскіданыя, маладыя дрэвы зламаныя, вакол валяюцца пустыя бутэлькі, рознае побытавае смецце. Няўжо людзі не разумеюць, што нельга так абыходзіцца з прыродай? На кожнае месца нарыхтоўкі дроў інспектара ці лесніка не паставіш.! Шмат хто лічыць, што, атрымаўшы ордар на нарыхтоўку драўніны, могуць секчы тое, што захацелі, вывозіць драўніну як і калі хочацца, але гэта далёка не так. 23 лютага 2011 года супрацоўнікамі міжрайінспекцыі пры праверцы парадку вывазкі драўніны з ляснога масіва Дзісненскага лясніцтва выяўлены факт незаконнай парубкі драўніны агульным аб'ёмам больш за 4 м.куб., а таксама грамадзянін Г., які ажыццяўляў вывазку дроў і не атрымаў дазволы ад работнікаў лясніцтва на іх вывазку, г.зн. фактычна здзейсніў крадзеж лесу. Грамадзянін Г. прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, бо па адным дакуменце, атрымліваецца, можна вазіць драўніну шмат разоў, пакуль работнікі лясніцтва ці інспекцыі не затрымаюць. Супрацоўнікі міжрайінспекцыі не раяць грамадзянам паступаць так, інакш дровы стануцца «залатымі». Для вывазкі і нарыхтоўкі дроў заўсёды неабходна мець дакументы з адзнакай службовай асобы лясніцтва пра водпуск драўніны, кантроль за выкананнем дадзеных патрабаванняў будзе яшчэ больш жорсткім, бо ў любым выпадку гэта давыяўлены цэлы шэраг парушэнняў ляснога заканадаўства. Пры неабходнасці любы грамадзянін можа звярнуцца ў лясгас або міжрайінспекцыю за тлумачэннем пра парадак нарыхтоўкі і вывазкі драўніны.

Таксама супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі штотыдзень арганізуюцца праверкі месцаў падкорму дзікіх жывёл арандатарамі паляўнічых угоддзяў, і прыемна, што арандатары добрасумленна ставяцца да сваёй працы, у цяжкі для жывёл перыяд падкормавыя пляцоўкі заўсёды запоўнены кармамі, а жывёлы спакойна могуць карміцца.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» міжрайінспекцыі: 2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

7 – 13 сакавіка 2011 г.







Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў.

Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтам да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.









## ПАНЯДЗЕЛАК, 7 сакавіка



**07.05 Мультфильмы.**
**07.45** Доброе утро, Беларусь!
**08.45** Слово Митрополита Филарета на начало Великого поста.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**09.10** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Он ждал меня всю жизнь».
**10.05 «Сваты-3»** 6-я, 7-я серии.
**12.10 «Невероятные приключения итальянцев в России»**
**14.10** Документальный фильм «Андрей Миронов. Обыкновенное чудо» (Россия).
**15.15** Новости региона.
**15.35** «Здоровье».
**16.05** «Славянский базар.Избранное».
**16.30** Премьера. **«Письма к Джульетте»**
**18.35** «Арена».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Легенды«Ретро-FM»Часть 1-я.
**21.00** «Панорама».
**21.40** Премия «Оскар». Мюзикл **«Мулен Руж»** (США-Австралия).
**00.00** Премьера. Комедия **«Невеста любой ценой»**
**01.50** День спорта.



**07.00** «Наше утро».
**08.00, 09.00** Наши новости.
**09.05** Премьера. «Любовь глазами мужчин».
**10.05** Премьера в цвете. Николай Рыбников в фильме **«Весна на Заречной улице»**.
**11.55** Тележурнал «Союз».
**12.25** Премьера. Елена Яковлева, Сергей Жигунов в фильме **«Рита»**.
**14.10** Нина Сазонова, Инна Макарова в фильме **«Женщины»**.
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** Людмила Гурченко, Александр Михайлов в комедии **«Любовь и голуби»**.
**18.30** Евгения Лоза в фильме «Золушка. ru».
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Посвящаю Вам…». Концерт солиста Белорусского государственного ансамбля «Песняры» Валерия Скорожонка.
**23.00**-01.00 Премьера. Федор Бондарчук, Оксана Фандера в фильме **«Про любофф»**.





**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Ромео + Джульетта»** (США).
**10.05 «Веселые ребята»** (СССР).
**11.55** Пра мастацтва.
**12.25** Внеклассный час.
**12.40** Школа ремонта.
**13.35** Новости погоды.
**14.00«Попытка Веры»** (Россия).1-5-я сер.
**17.45** «Папайя». Док/фильм.
**18.20** Музыкальное шоу «Красотки».
**20.05** Детский комедийный мультсериал **«МашаиМедведь»** (Россия). 1-4-я сер.
**20.50** Калыханка.
**21.05** Телебарометр.
**21.10** Комедийная мелодрама **«Родня»** (СССР).
**23.00** Овертайм.
**23.35** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.30 «По ту сторону кровати»**





**06.00 «КОНЕК-ГОРБУНОК»**. Мультфильм.
**07.10**«Семейное кино»: **«КАРАНТИН»**
**08.30** «Неделя».
**09.35**«Большой завтрак».
**10.05** «Званый ужин».
**11.00**«Кино»:**«СЛАДКАЯ ЖЕНЩИНА»**. СССР, 1976 г.
**12.40** «Звездный ринг». Группа «Tanin jazz» против группы «Талант».
**14.00** «Званый ужин».
**14.55** Концерт Михаила Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.40** СТВ представляет: «КультУРА!».
**17.10** «Наше дело».
**17.25** «Кино»: **«СЕМЬ ДНЕЙ ДО СВАДЬБЫ»**. Украина, 2007 г.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «СТВ-спорт».
**20.10** «Кино»: **«МОЯ СУПЕР-БЫВШАЯ»**
**22.00** «Кино»: **«КРАСОТКИ»**. Франция, 1998 г.
**23.50** «Столичный футбол».
**00.20** «Кино»: **«ЖИЗНЬ, ИЛИ ЧТО-ТО ВРОДЕ ТОГО»**.

БЕЛСАТ tv BELSAT

**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30 «Цудоўны дзень»**
**9:05** «Сальвадор Альендэ» (Salvador Allende), дак. фільм, рэж. Патрысьё Гусман (Patricio Guzmбn), 2004 г., Чылі
**10:45** Прэс-экспрэс
**11:05** ПраСвет
**11:30** Эксперт
**12:00** Аб'ектыў
**12:05 «Цудоўны дзень»**
**13:35** «Сальвадор Альендэ» (Salvador Allende), дак. фільм, рэж. Патрысьё Гусман (Patricio Guzmбn), 2004 г., Чылі
**15:20** Прэс-экспрэс
**15:35** ПраСвет
**16:05** Эксперт
**16:30** Басанож па свеце
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Піпі Доўгаяпанчоха»** : 1 серыя
**17:30 «Час гонару»**: 19 серыя
**18:20** Хто ёсць кім?: Ганна Хітрык: «Думай пра добрае»
**18:40** Прэс-экспрэс
**18:55** «Генерал нясконачанай вайны», дак. фільм, рэж. Сяргей Ісакаў, сцэнарыст Уладзімір Халіп, 2009 г., Беларусь
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:55** Еўропа сёння
**20:25** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Забойства напярэдадні вясны», дак. фільм, Вольга Нікалайчык, 2010 г., Польшча–Беларусь
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Сцяна, дак. цыкл
**21:30** Рэмарка
**21:50** Фільматэка майстроў: **«Праўдзівая рамантыка»**
**23:35** Аб'ектыў
**0:00** Гарачы каментар

